© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 20 (116) БЕЛАСТОК, 18 МАЯ 1958 г. ГОД III



## Куды далей пайсці?

Куды далей пайсці — вучыцца ці працаваць? Гэтае пытанне хвалюе не толькі выпускнікоў сярэдніх школ, але таксама і іх бацькоў.

Набліжаецца канец 1957/58 навучальнага года. Частка моладзі назаўсёды пакіне сцены сярэдніх школ. Шчырымі пажаданнямі Беларускага грамадска - культурнага таварыства з'яўляецца тое, каб як найбольш абсальвентаў сярэдніх школ паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

БГ-КТ і Міністэрства асветы прыйшлі да вываду, што моладзь беларуская, якая будзе паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы на першы курс, павінна ў большасці згуртавацца на факультэтах Варшаўскага універсітэта, ствараючы студэнцкі беларускі асяродак. Моладзі, згуртаванай у гэтым асяродку, будуць чытацца на працягу двух год лекцыі на беларускай мове. Гэты студэнцкі асяродак арганізуецца з той мэтай, каб на будучыню мець свае высокакваліфікаваныя кадры, якія вярнуліся-б працаваць на Беласточчыну. Моладзі, якая здасць уступныя экзамены ў Варшаўскі універсітэт, будзе запэўнена месца, забяспечана стыпендыя і інтэрнат.

Моладзь, якая атрымае ў гэтым годзе атэстат сталасці і будзе старацца паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, павінна складаць прашэнні ў школе, дзе канчае навуку. Дырэктары гэтых школ павінны да 15 чэрвеня пераслаць удакументаваныя прашэнні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Да прашэння трэба далучыць:

1. індывідуальную анкету кандыдата на першы год вышэйшых устаноў,
2. копію метрыкі нараджэння, завераную дырэктарам школы,
3. уласнаручна напісаную біяграфію,
4. атэстат сталасці — арыгінал,
5. тры здымкі (37 x 52 мм) на ясным фоне без галаўнога ўбору,
6. доктарскае пасведчанне, якое будзе сцвярджаць прыгоднасць кандыдата на адпаведны напрамак вучобы.

Кандыдаты, якія будуць старацца атрымаць стыпендыю і месца ў акадэміцкім доме, павінны далучыць асобныя прашэнні.

Уступныя экзамены на першы курс універсітэцкіх, палітэхнічных, вышэйшых школ рольнічых і эканамічных, вышэйшых школ педагагічных і школ фізічнага выхавання адбудуцца паміж 2 і 15 ліпеня 1958 года.

А вось якія экзамены абавязваюць кандыдатаў пры паступленні на першы курс у вышэйшых школах у 1958 г.

Варшаўскі універсітэт:

1. *беларуская філалогія:* пісьмовы — руская мова і беларуская (кандыдат мае права выбіраць, на якой мове здаваць экзамены), вусны — па беларускай мове і польскай літаратуры;
2. *руская філалогія:* пісьмовы — руская мова, вусны — руская мова і польская літаратура;
3. *гісторыя:* пісьмовы па гісторыі, вусны па гісторыі і польскай літаратуры;
4. *матэматыка:* пісьмовы па матэматыцы і фізіцы;
5. *хімія:* пісьмовы па матэматыцы, вусны па хіміі і фізіцы;
6. *геаграфія:* пісьмовы па геаграфіі, вусны па геаграфіі і фізіцы;
7. *біялогія:* пісьмовы па біялогіі, вусны па біялогіі і хіміі.

Палітэхніка — на ўсіх факультэтах экзамены пісьмовыя па матэматыцы, а вусныя па матэматыцы і фізіцы, на архітэктуры яшчэ адзін пісьмовы экзамен па маляванню;

Вышэйшыя школы эканамічныя — пісьмовы экзамен па гісторыі, вусны па геаграфіі і матэматыцы;

Вышэйшыя школы рольнічыя — пісьмовы па біялогіі і матэматыцы, вусны па матэматыцы;

Не падаў я тут усіх кірункаў студыяў у Варшаўскім універсітэце, падаў толькі тыя, якія, на мой погляд, найбольш цікавяць моладзь з сярэдніх школ.

Я. РУБЧЭЎСКІ



*Мінулы тыдзень быў «Тыднем Заходніх Земляў». Грамадскасць нашай краіны запазналася з дасягненнямі і далейшымі перспектывамі развіцця Заходніх Земляў.*
*НА ЗДЫМКУ: у святочныя дні на прыгожым рынку ў Аполі*



*14 мая г. г. мінула XV гадавіна ўтварэння ў СССР I дывізіі імя Т. Касцюшкі.*
*НА ЗДЫМКУ: баявая вучоба польскіх артылерыстаў. Транспартыроўка артылерыі на процілеглы бераг ракі.* Фото — ЦАФ

## Гал. рэд. «Краю Рад» у Беластоку

10. V. у клубе міжнароднай кніжкі і друку адбылася сустрэча з гал. рэд. «Краю Рад» Барысам Жырновым і чытачамі гэтага новага і вельмі цікавага савецкага часопіса на польскай мове.

Рэд. Барыс Жырноў расказаў аб жыцці і працы савецкага народа і адказаў на некалькі пытанняў, якія задавалі яму чытачы «Краю Рад».

*

У той-жа дзень адбылася сустрэча з журналістамі беластоцкіх газет і радыё.

Сустэча адбылася ў вельмі прыемнай атмасферы.

## Тэарэтычная канферэнцыя

У мінулым тыдні ЦК ПАРП арганізаваў тэарэтычную канферэнцыю па нацыянальнаму пытанню. У працы канферэнцыі ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў. Між іншым, ад БГ-КТ выступіў сакратар галоўнага праўлення Віктар Швед.

## Дэкада польскай культуры ў БССР

Ад 14 да 28 чэрвеня 1958 г. у БССР адбудзецца дэкада польскай культуры. Прадугледжваецца вельмі шырокі абмен культурнымі дзеячамі і мастацкімі калектывамі. З Польшчы ў БССР выедзе 5 — 7 дзеячоў культуры і мастацтва, дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Стулігроша з Познані, 8 — 10 польскіх салістаў. Апрача гэтага, на запрашэнне Белокса з Польшчы выедзе ў БССР 5 культурных дзеячоў. У БССР будзе шырока праведзена папулярызацыя польскай культуры па радыё і ў прэсе. Адбудзецца агляд польскіх фільмаў і будуць арганізаваны фотавыстаўкі.

У часе гэтай дэкады Польшчу адведае мастацкі калектыў пад кіраўніцтвам Шырмы, які дасць канцэрты ў Беластоку, Ольштыне, Гданьску, Быдгошчы і Варшаве.

Будзе праведзена праз радыё, прэсу і тэлевізію шырокая папулярызацыя беларускай культуры ў Польшчы.

Я. Р.

© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

**З настаўніцкай нівы**

# Паступаем вучыцца ў Настаўніцкую студыю

Дырэкцыя Настаўніцкай студыі ў Беластоку падала да ведама ўсім матурыстам умовы, на падставе якіх прымаецца кандыдатаў на 1958 год. Мне — працаўніку гэтай навучальнай установы і адначасова настаўніку, хочацца параіць многім выпускнікам адзінаццацігодак, тэхнікумаў, або роўназначных школ — скарыстаць з гэтай магчымасці.

Настаўніцкая студыя працуе ўсяго трэці год і хоць змяшчаецца ў старых непрыемных адрогах палаца Браніцкіх па вул. Міцкевіча 2 — то аднак навуковае жыццё ідзе ў ім шпарка. Пакуль што існуе ўсяго 3 напрамкі: польская філалогія, матэматыка і фізіка, а ў недалёкай будучыні арганізуецца — гісторыя, геаграфія, біялогія і гд.

Сама школа і праца ў ёй мае характар 2-гадовай няпоўнай вышэйшай установы. Пасля заканчэння можна паступаць на ВСП стацыянарна або завочна. Аднак галоўным заданнем Настаўніцкай студыі з'яўляецца добрая падрыхтоўка маладога энтузіяста — настаўніка да працы ў пачатковай школе.

Маючы гэта на ўвазе праграма навучання так складзена, што каля 70 — 80% усяго часу студэнт прысвячае паглыбленню ведаў выбранага праз сябе прадмета, а астатні час прысвячаецца вывучэнню адной з замежных моваў (рускай, англійскай, нямецкай або французскай), прадметаў у галіне мастацтва, працы ў навуковых гуртках і культурных мерапрыемствах.

Каб паступіць у Настаўніцкую студыю трэба мець:

1) атэстат сталасці (матуру).

2) добрую рэкамендацыю з той школы, якую кандыдат закончыў.

3) добрае здароўе да працы ў школе пацверджанае лекарам (пасведчанне).

4) не больш 30 год жыцця.

Да ўсяго трэба далучыць аўтабіяграфію, метрыку нараджэння, 3 фатаграфіі (37 х 52) і добра вытрымаць уступны экзамен.

У тым годзе экзамен такі адбудзецца ў тэрміне ўстаноўленым для ўсіх вышэйшых навучальных устаноў, т. з. ад 2 да 15 ліпеня 59 г. Экзамен будзе пісьмовы і вусны толькі з выбранага праз сябе прадмета, пасля чаго трэба яшчэ прайсці выпрабаванне слуху і рысунковых здольнасцей.

Амаль усім не беластачанам прызнаецца месца ў добра абсталяваным новым інтэрнаце. Многім студэнтам, у залежнасці ад іх матэрыяльнага становішча і ад поспехаў у працы, прызнаецца стыпендыі ў размеры 263 і 175 злотых у месяц.

Дырэкцыя Настаўніцкай студыі падала да ведама, што выпускнікі цякучага года ўсе дакументы павінны зложыць у сваёй школе да дня 15. VI. 58 г., а выпускнікі з мінулых гадоў — у дырэкцыю Студыі да 10. VI. 58 г.

Раю матурыстам падумаць над прапановай дырэкцыі. Акрамя няпоўнай вышэйшай адукацыі можа студэнт адбываць адначасова дзейную службу вайсковай падрыхтоўкі і, што самае важнае, атрымоўвае права навучання ва ўсіх класах пачатковай школы становячыся членам вялікай сям'і педагогаў.

В. ЮЗВЮК
Настаўніцкая Студыя.

## Ой мякка спаць...



*на такіх падушках, якія быццам горы ляжаць на ложках у нашых вясковых хатах. Прыгожа засланы ложак з горамі вялікіх і малых падушак прыдае своеасаблівае хараство вясковай хаце.*

*Фото — аа.*

## Дні асветы, кніжкі і друку прадоўжаны

Агульнапольскі выканаўчы камітэт па справе абходу Дзён асветы, кніжкі і друку паведамляе, што Дні асветы, кніжкі і друку ў гэтым годзе будуць праходзіць не да 18 (як мы пісалі) а да 25 мая.

## Менш гадзін

Згодна з прапановай міністра асветы, Рада міністраў пастанавіла пачынаючы ад 1 верасня г. г. паменшыць у пачатковых школах лік навучальных гадзін з 30 на 26 у тыдзень.

### Некалькі лічбаў

На Беласточчыне ёсць 322 бібліятэк, у якіх налічваецца 978.533 тамоў кніжак.

* * *

У 1957 годзе наша дзяржава закупіла ў кожную павятовую бібліятэку ў сярэднім па 900 кніжак, а ў грамадскія па 139 кніжак.

## Пацікаўся — прачытай

Апошнім часам наш кніжны рынак атрымаў шэраг новых цікавых кніжак на беларускай мове.

«Над Нёманам» — цікавы раман маладога беларускага аўтара Уладзіміра Дадзіёмава. Значную частку гэтага рамана напісаў ён у Гродна.

Аб жыцці сучаснай беларускай калгаснай вёскі расказваецца ў аповесці Івана Шамякіна — «Крыніцы».

Пераажыць сапраўдны рэвалюцыйны пафас можна чытаючы кніжку А. Голубевай — «Клаша Сапашкова».

Вартым увагі ёсць зборнік апавяданняў латышскага пісьменніка Андрэя Упіта — «Апавяданні». Гэтыя апавяданні ў многім адлюстроўваюць жыццё і барацьбу братняга латвійскага народа.

Вялікую цікавасць прадстаўляе кніжка рускай аўтаркі Р. Абловай — «Гэта было ў Беларусі», у якой расказваецца аб гісторыі барацьбы моладзі ў партызанскіх атрадах і ў падполлі.

(ся).

**З жыцця Педагагічнага ліцэя ў Бельску**

## У інтэрнаце

У інтэрнаце Педагагічнага ліцэя ў Бельску налічваецца 165 асоб (145 дзяўчат і 20 хлапцоў). Моладзь інтэрната жыве тут своеасаблівым жыццём. У вызначаных гадзінах устае, лягае спаць, вучыцца і ў вызначаных гадзінах спажывае снеданне, абед і вячэру. У вольных хвілінах тут моладзь іграе на скрыпках. Найбольш любяць іграць Валя Чэчун і Толік Данілюк. Можна таксама часта пачуць меладычныя песні, якія спяваюць дзяўчаты, а запявае Галя Кандрусік.

## Ваўкалак

Чараўніца уракла;
Быў я колісь ваўкалакам,
Бегаў чортам ўздоўж сяла,
І к гавядом поўзаў ракам,
І людскую знаў гаворку,
І з сабакамі з надворку
Гаварыць я спосаб меў.
За гумном раз ціха сеў,
Ажно Лыска прыляцеў, —
Як на панскай службе стаў.
Па прыязні ён мне кажа:
— «Кінь, ты, куме, жытло ўражжа:
Цяпер марна прападаеш:
А ты-ж гэткі спосаб знаеш:
Майму пану стань служыць,
Табе добра будзе жыць».
— «А ты дурню, думаў я:
Мне вярнуцца да сяла?
З сваім панам і сялом
Задушыся ты калом,
Хоць галодзен — я свабодзен,
Гдзе мне цягне — там бягу —
На свабодзе прападу,
А ў няволю — не пайду!
Буду вольным ваўкалакам
Ты-ж — на прывязі сабакам!»

*З жыцця нашай моладзі*

# Вечарынка ў Моры

Вёска Мора ў Гайнаўскім павеце даволі вялікая. Цягнецца яна амаль 2 кілометры. У Моры ёсць многа моладзі. Нажаль, гэтая моладзь не мае амаль ніякай культурнай разрыўкі, калі не лічыць забаў, якія тут час-адчасу адбываюцца. Але нават і забавы добрай нельга тут зрабіць, бо ў вёсцы няма святліцы. Зімою забавы адбываюцца па чарзе ў хатах хлопцаў і дзяўчат. Цесныя яны для моладзі, не разгуляешся тут...

Аднойчы давялося мне пабываць на адной з такіх забаў у Моры. Хата запоўнілася моладдзю, пераважна дзяўчатамі, іх тут шмат больш чым хлопцаў.

Хлопцы прыходзілі ўжо падхмеленыя, аднак нельга сказаць, каб былі п'яныя. Апрача тутэйшай моладзі; на вечарынку прыйшлі хлопцы і з навакольных вёсак. І праўду скажу: будучы ў Моры, не заўважыў я, каб тут кепска адносіліся да моладзі з іншых вёсак (хаця, як кажуць, не заўсёды так бывае). Досыць часта хлопцы з Мора не найлепш адносяцца да сваіх сяброў з Крывятыч ці іншых вёсак. Невядома чаму. Мо' баяцца канкурэнцыі ў адносінах да сваіх дзяўчат? А дзяўчаты тут вельмі прыгожыя і таленавітыя. Калі заспяваюць, дык чалавека аж за сэрца нешта хапае.

Так і цяпер. Толькі пачалася вечарынка, а з хаты ўжо паліліся задорныя песні.

Невядома чаму, але ўжо здаўна дзяўчаты падзяліліся тут на дзве групы. На вечарынцы яны ніколі не злучаюцца. Сядзяць і спяваюць заўсёды асобна.

Вось з першай групы прыемна — ціхім, меладыйным голасам пачынае найлепшая пявуня Вера Сачко:

*«Что там на горочке чернеет»...*

Да яе далучаюцца галасы Мані Хіліманюк, Надзі Назарук, Ніны Шыла, за імі падхопліваюць другія дзяўчаты — і песня палілася ў прастор.

Пакуль спявае першая група, другая група дзяўчат, скептычна ўсміхаючыся, аб нечым перагаворваецца паміж сабой.

— Убачыце, як мы заспяваем, — напэўна думаюць яны, — вочы ад зайздрасці вам пабялеюць!

І толькі першая група закончыла сваю песню, як дзяўчаты з другой, глыбока ўздыхнуўшы, пачынаюць вельмі тут папулярную песню «Пшаніца». Пачынае Оля Кірызюк, за ёю меладыйна падцягваюць Надзя Баравік, Каця і Надзя Герасімюк. Па меры таго, як песня авалодвае сваёй прыгажосцю пачуцці прысутных, прыемныя тварыкі дзяўчат з першай групы нейк дзіўна насупліваюцца.

Ох, гэтая зайздрасць дзявочая! І дзе-ж яе толькі няма?!

А дзяўчаты з другой групы не паддаюцца. Услед за «Пшаніцай» сыплюцца іншыя песні, задзёрыстыя прыпеўкі.

Мабыць, яны задзелі за жывое і гарманіста, бо ён, страпянуўшы грывай кучаравых валасоў, расцягнуў да адказу мех гармоніка і разануў «рускага».

Моладзь ажывілася, прыўстала і, утварыўшы пасярод хаты круг, застыла ў чаканні. Зрабілася ціха, ціха. Раптам усе расступіліся, прапускаючы ў круг расчырванелую Надзю Хіліманюк. Яна ў такт рытмічнай музыцы, прытупваючы абцасікамі чорных туфлікаў, надзетых на зграбныя, быццам точаныя ножкі, проста паплыла па кругу. Штораз хутчэй, штораз шпарчэй, штораз плаўней плыла невялікая зграбная фігурка. Здавалася, вось, вось з-пад яе туфлікаў сыпануць іскры.

Не вытрымалі тут і іншыя танцоры і, уварваўшыся ў круг, ходырам захадзілі за Надзяй. А яна то адступае, дробненька прытупваючы ножкамі, ды залётна ўсміхаючыся, то ізноў пойдзе ў такую атаку, што хлопец - небарака не мае дзе і падзецца ў кругу.

Ох і ўмее Надзя танцаваць «рускага»! Мала хто тут з ёю станцуецца.

Вельмі цікава пабыць у Моры, пабачыць як моладзь гуляе на вечарынцы. Вечарынкай не менш тут цікавяцца і старыя. Часта напхаецца тут столькі жанчын, а то і старэнькіх бабулек, што павярнуцца няма дзе.

Вядома, ім-жа цікава пабачыць гэта, паўспамінаць сваё мінулае. Ну, і вельмі-ж ужо дарэчы назаўтра абгаварыць кожнага, папляткарыць удосталь.

Таленавітая моладзь у Моры. Толькі яна неарганізаваная. І што яшчэ горш, няма тут каму кіраваць арганізацыяй культурнага жыцця.

Настаўнікі Пачатковай школы ў Моры (усе яны маладыя) не прыходзяць на вечарынкі, ды і зусім не цікавяцца жыццём моладзі.

А шкада. Пры добрай ахвоце яны, несумненна, маглі-б шмат дапамагчы ў арганізацыі культурнага жыцця моладзі вёскі Мора.

На падставе карэспандэнцыі апрацаваў ШУЛЯК



© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

